**Расціслаў Бензярук**
**і Вісарыён Крысько**

# Жыў на свеце дзед Васіль

*Кніга абразкоў пра Васіля Вітку, ягоны час і сяброў*

Брэст
«Академия»
2006

## ДВА АЎТАРЫ — АДНА ТЭМА

*(Замест уступу)*

Хто можа расказаць пра чалавека лепей за блізкіх яму людзей! Бацька — пра сына, як Адам Ягоравіч пра Максіма Багдановіча, дачка — пра бацьку, як Валянціна пра Аркадзя Куляшова, сын — пра бацьку, як Адам Глобус пра Вячаслава Адамчыка...

Менавіта таму я гады тры назад пры сустрэчы прапанаваў Вісарыёну Крысько напісаць успаміны пра яго бацьку — Васіля Вітку.

Нашае знаёмства з Вісарыёнам Цімафеевічам пачалося больш за пяць гадоў таму, калі я ў жабінкаўскай раённай газеце „Сельская праўда" надрукаваў эсэ пра яго бацьку.

Вісарыён Крысько, доктар па прафесіі, сумняваўся ў сваіх пісьменніцкіх здольнасцях, але мне ўдалося пераканаць яго напісаць успаміны. І, як выявілася, нездарма...

Летась, калі быў у Мінску, зайшоў да Крыськоў. Вісарыён Цімафеевіч прыняў мяне надзвычай гасцінна, ветліва і паказаў свае ўспаміны. Напісанае спадабалася з першых старонак. Імпанавалі ўменне аўтара заўважыць нешта такое, што іншыя, можа, і не ўбачылі б, ледзь прыкметная ўсмешка, добры гумар (ці не віткаўскія?) ды цудоўнае валоданне роднай мовай. У кожным радку апісваўся нейкі факт з бацькавага жыцця.

Трымаючы ў руках такое багацце, я зразумеў, што артыкул, якім я першапачаткова хацеў адзначыць 95-годдзе Віткі, занадта мала: трэба было рабіць кнігу.

Так нарадзілася задума сумеснай кнігі ўспамінаў. Першая частка яе — „Ядлоўцавы посах" — напісана Вісарыёнам Крысько, а другая — „Магія слова" — мною.

Спачатку я хацеў даць кнізе імя „Урокі Вялікага Мудраца", як называлася эсэ ў „Сельскай праўдзе", але мой сааўтар палічыў назву занадта пампезнай і прапанаваў сваю — „Арэшына", патлумачыўшы гэта так: „Бацька вельмі любіў арэшыну за тое, што яна зацвітае першай, калі яшчэ ляжыць снег...

— Зацвіла арэшына! — казаў ён. — Гэта для мяне як асабістае свята..."

І Вісарыён Цімафеевіч прывёў чатырохрадкоўе з верша Віткі „Арэшына", напісанага сорак пяць гадоў таму, у тую вясну, калі Гагарын да зор паляцеў:

Вясной усцешана  
Сярод вербаў ніцых  
Зіхаціць арэшына

У завушніцах.

Тады я прапанаваў яшчэ адзін варыянт назвы: „Арэшына ў завушніцах”.

Аднак ні адзін, ні другі варыянты нечым не задавальнялі нас абодвух. Давялося спыніцца на новай назве — „Жыў на свеце дзед Васіль”, якая зноў жа была пазычана з віткаўскага верша.

Таму сёння, дарагі чытач, ты трымаеш у руках кнігу ўспамінаў, напісаную двума аўтарамі, якія любілі Цімоха Васільевіча.

*Расціслаў БЕНЗЯРУК*

# Частка першая

# ЯДЛОЎЦАВЫ ПОСАХ

## ЕЎЛІЧЫ

Еўлічы — вялікая вёска ў Слуцкім раёне Мінскай вобласці, дзе 16 мая 1911 года нарадзіўся Васіль Вітка (Цімох Васільевіч Крысько), мой бацька.

Паселішча складалася з чатырох вуліц-пасёлкаў — з трох паралельных і адной бакавой. Бабка Марыя Міхайлаўна Крысько жыла з цёткай Тасяй і яе сям'ёй у першым пасёлку.

Аднойчы бацька павёў нас на месца свайго нараджэння — у закінутыя Старыя Еўлічы, што знаходзіліся ў некалькіх кіламетрах ад Новых.

Стары еўліцкі вятрак стагнаў пад ветрам. Я, забіўшыся ў куточак, гадзінамі сачыў, як круціліся жорны і цёк струменьчык мукі. Белы ад пылу стары Берасневіч соваўся, як вядзьмак. Асаблівы знак ягонага даверу да нас, хлапчукоў, — даць паставіць крылы млына на вецер.

На другім баку пасёлка, насупраць старога ветрака, была адзіная ў Еўлічах крынічка і невялічкая сажалка, зарослая аерам і асакой. Малы памер (з невялікі пакойчык), глей і багністае дно не палохалі дзецей, якія асцярожна, стараючыся не скаламуціць ваду, купаліся тут.

На сажалку прылятаЛі качкі і кулікі, было шмат іншай жыўнасці. Непадалёк па поплаве паважна хадзілі буслы. Ні млына, ні сажалкі цяпер няма, а крынічку разбурылі меліяратары. Засталася толькі куча бруду.

Кожны наш прыезд у Еўлічы суправаджаўся пэўным рытуалам: бабка выстаўляла на стол два збанкі сырадою, і мы з бацькам іх урачыста выпівалі (мама з Наталкай сырадою не любілі).

Неўзабаве на стале з'яўляліся вялізная міса з халодным кіслым малаком і смятанаю, бульба, яечня з салам, цыбуля з каўбасою, пальцам пханаю, бліны-таркаванцы, віно ці гарэлка. Прыходзілі госці, пачыналася размова...

## ГЭТА — РОДНАЕ!..

Бацька, мабыць, перарабіў вядомае выслоўе: „Мы ўсе выйшлі з „Шынелі” Гогаля” на свой капыл:

— Усе Віткі з адной світкі.

Ён па-сапраўднаму быў улюбёны ў родную зямлю, у родную Беларусь і не скрываў гэтага. Мы не аднойчы чулі ад яго:

— Мае Еўлічы, мая Случчына, мой Гомель, мая Беларусь — гэта маё роднае...

Пара і нам зазірнуць у глыб вякоў, звярнуўшыся да каранёў роду.

## ПАЧАТАК РАДАСЛОЎЯ

Я з гонарам магу лічыць сябе інтэлігентам у пятым пакаленні, праўда... неафіцыйна. Бацька не хлусіў, калі пісаў у сваіх „Тытулах”, што першы

Пачаў мой прадзед рыжы
І ледзьве-ледзьве ў воласці
Накрэмзаў першы крыжык,
А з таго дня ён „пісарам”
Вярнуўся ўжо дадому...

Ад ягонай мянушкі пайшлі прозвішчы нашых родзічаў — „Пісаравы”, „Пісарчукі” — як вясковыя, так і сапраўдныя.

А дзед, што „ліха магары”
Казаў за кожным словам,
Папаў у „губернатары”,
Бо лаяў адмыслова...

Мой дзед, Васіль Максімавіч, быў ужо першым вясковым грамацеем — „некалі аж тры зімы хадзіў у воласць у школу”, збіраў і выменьваў кнігі, дзе мог. Кожны дзень чытаў уголас для сям'і, сяброў, суседзяў многа год запар. Амаль усё жыццё чытаў па-майстэрску, артыстычна. Цімашок, „стуліўшыся на палку пад старым кажухом”, слухаў беларускую, рускую і польскую класіку. Шмат гадоў пазней успамінаў: „Маю ж асаблівую пашану да бацькі выклікала тое, што ў нашай хаце, колькі я памятаю, ніколі не зводзіліся кнігі... І калі надаралася вольная часінк, у хаце... усю ноч міргала газоўка. Пры яе сляпым святле бацька чытаў уголас. Ахвотнікі паслухаць знаходзіліся. Часта да позніх пеўняў вокам не мог звесці і я, хоць бацька думаў, што я сплю...”

Дзед далучыў да вялікай культуры мноства людзей, і, калі пачалі ўтварацца калектыўны» гаспадаркі, гэтыя людзі абралі яго старшынёю калгаса за мудрасць і адукаванасць. Мой дзядуля ўмеў усё: „падбіваў і латаў просты і грубы абутак людзей... Рабіў ткацкія варштаты. Змайстраваў такарны станок і выточваў верацёны. Ну, а пра шавецтва і гаварыць не прыходзілася... Ён шыў не адны ялавыя, а і самыя шчыгульныя хромавыя боты. І яшчэ адна спецыяльнасць была ў яго, патрэбная людзям: ён лячыў хворых. І хоць запас яго медыцынскіх ведаў абмяжоўваўся адной-адзінай кнігай, прынесенай з вайны, „Пособие для военных фельдшеров", ён, як прызнавалі многія, ведаў, што да чаго і нават мог лацінскімі літарамі напісаць рэцэпт". Такім чынам, я быў ужо другім медыкам у нашым радаводзе.

## БАБКА МАРЫЯ

Маю маленькую бабульку без спрэчак слухаліся ўсе: і Васіль Максімавіч, і іх дзеці, і дзеці іх дзяцей. У першыя галодныя пасляваенныя гады на галовы бабкі і цёткі Тасі (малодшай бацькавай сястры) штогод улетку звальваўся цэлы дзіцячы кагал.

Бацька прывозіў мяне з Наталкай, цётка Тоня — сваіх Лёньку, Налечку, Ларыску і Толіка, у цёткі Тасі падрастаў Васілёк. І ўся гэтая кодла патрабавала ежы і пітва, усіх трэба было трымаць у яжовых рукавіцах. Нездарма гаворыцца, што пасляваенных дзетак ураталі бабулькі і козы. Бабка ніколі не кранула нас і пальцам, сварылася рэдка.

Аднойчы, калі мы з Лёнькам зваліліся з жарабца дзядзькі Мішы (ён быў ветэрынарам), бабуля аблаяла нас „пашахонцамі" і „нячысцікамі". У другі раз, калі кас з Лёнькам выгнаў з калгаснага саду пажылы вартаўнік дзядзька Мікіта, я паскардзіўся бабцы на яго:

— Бабушка, этот мальчик Никита обещал, что влепит нам соли, если мы попадемся еще раз!

Мая стрыманая бабка зарагатала, і гэтага „мальчика Никиту" ў нашай сям'і ўспаміналі яшчэ доўга.

У адрозненне ад свайго мужа, грамацея і бязбожніка, Марыя Міхайлаўна была глыбока веруючым чалавекам. У хаце заўсёды віселі абразы і адзначаліся царкоўныя святы. Усе дзеці ў іх сям'і былі ахрышчаныя — Васіль Максімавіч не пярэчыў.

Калі бабка наведвала нас у Мінску, яна часта хадзіла ў царкву. Аднойчы ўзяла і мяне з сабой у храм Святога Аляксандра Неўскага на Вайсковых могілках:

— Ты, Нехрысць, стой у куточку і слухай, але не хрысціся.

Я палюбіў гэтую царкву. У школьныя і студэнцкія гады не аднойчы заходзіў сюды паслухаць хор.

За тры тыдні да смерці бабуля з сяброўкамі юнацтва пехатою хадзіла ў царкву амаль за дзесяць вёрст ад дому, а ёй было ўжо за восемдзесят.

Марыя Міхайлаўна любіла застолле, пасля чарачкі віна спявала беларускія, рускія і ўкраінскія песні, якіх ведала мноства, весела расказвала розныя гісторыі. Яна была добрай траўніцай, у сенцах заўсёды віселі пучкі траў, а на Сёмуху ўся падлога ўсцілалася аерам, пах якога я і дагэтуль памятаю.

Бабуля заўсёды прывозіла нам вясковыя гасцінцы: каўбасы, пальцам пханыя, мой любімы сухі салёны сыр і гарбузікі.

## ЯЕ ЗАПАВЕТ

Мама расказвала мне, як яны ўпершыню сустрэліся:

„У маі 37-га (я была на шостым месяцы) пад вечар поркалася ў нашым агародзе.

Да плота падышла пажылая маленькая жанчына, якую я ніколі раней не бачыла, але пазнала адразу:

— Гэта ты, Волька?

— Я, мама. Заходзьце, калі ласка.

— Цімох дома?

— Зараз прыйдзе, мама.

І ўвайшлі ў хату.”

З гэтага дня ў іх адносінах на ўсё жыццё запанавалі любоў і павага.

Бабка была вечнай працаўніцай, заўсёды нешта рабіла. За два дні да смерці яна паваліласяна градку, якую пачала палоць. Дачку Тасю, што прыбегла, каб дапамагчы, бабуля папрасіла паклікаць Тоню, Цімоха і Барыса. І на другі дзень усе прыехалі ў Еўлічы. Пад вечар Марыя Міхайлаўна села з імі за стол і нават пажартавала, што бацька наліў ёй няпоўную чарку, але не здолела яе прыгубіць. А ўначы бабуля ціха адышла.

Жанчыны, якія не спалі, прадчуваючы гэтае няшчасце, закрылі вочы нябожчыцы. Мужчыны прачнуліся ад незвычайнай цішыні ў хаце. Я не здолеў прыехаць на пахаванне: працаваў на Далёкім Усходзе і даведаўся пра смерць Марыі Міхайлаўны толькі праз тыдзень.

Усё жыццё выконваю яе запавет:

— Калі ўваходзіш у хату, здымі шапку!

## БАЦЬКАВА НАВУКА

Адукацыю бацька працягваў ў кузні свайго хроснага — кульгавага каваля Валадыма, памяць якога Вітка ўшанаваў у вершы „Гартаванне”:

Даверлівым, наіўным юнаком
Я прагнуў вызнаць кузні таямніцу.
Здавалася, пад гулкім малатком
Само жыццё мне мусіць пакарыцца.
Так навучаў мяне кульгавы Валадым,
Сусед па прозвішчу „руб дваццаць”.

Пасля таго як бацька скончыў пачатковую школу, любімая настаўніца Таццяна Мікалаеўна адвяла яго ў суседнюю вёску, дзе была сямігодка. Скончыўшы яе, ён паступіў у Слуцкую прафтэхнічную школу, атрымаў спецыяльнасць слесара.

Цімох Васільевіч пачаў працаваць на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце — найбуйнейшай новабудоўлі першай пяцігодкі. Тут ён трапіў у добрыя і ласкавыя рукі другога „хроснага бацькі” — Міхася Ціханавіча Лынькова.

## З КНІГІ МІКУЛІЧА

Творчая атмасфера таго часу добра характарызуецца словамі Барыса Мікуліча — цудоўнага пісьменніка, памерлага маладым пасля шматгадовай ссылкі:

„Неяк у Слуцку пазнаёміўся з Яўхімам Коканам і Цімохам Крысько, якіх ведаў да гэтага па вершах і па дастаткова інтэнсіўнай перапісцы... Абодвум ім „зайздросціў” у сэнсе ведаў жывой мовы. Яны ўжо тады пісалі таленавітыя вершы, былі нязвыкла калючымі (самастойнымі) для пачынаючых паэтаў. Крысько па натуры быў стрыманы і скрытны... больш слухаў і выпытваў. Кохан быў больш экспансіўны. Крысько браў хутчэй тонкасцю, Кохан — больш непасрэднасцю. Нават тады ў „стылізацыях”, якія пісалі абодва, адчувалася своеасобная, прыхаваная тонкасць, якая і сведчыла, што з іх абодвух выйдуць паэты... Пазней, калі я паехаў з Бабруйска, Цімох Крысько пераехаў на працу ў „Камуніст” і жыў у маім пакоі...

Рэдакцыя „Камуніста”, а мне — семнаццаць гадоў. Лынькоў — збіральнік бабруйскіх літаратурных сіл, уважлівы „бацька”. І сам ён тады пісаў многа, і многа ўдзяляў увагі літаратурнай моладзі. Вакол „Вясны” гуртавалася яна — Шынклер, Алесь Жаўрук, Яўхім Кохан, Цімох Крысько... Кабінет Лынькова быў нашым клубам... Шчаслівая

пара! Без хмараў, без расчараванняў, толькі перспектывы, толькі імкненне наперад і — цёплае творчае сяброўства".

У Бабруйску, у гасцінным доме Барыса Мікуліча і яго сясцёр, жылі Яўхім Кохан, Сяргей Грахоўскі і мой бацька. Насупраць, праз вуліцу — Аляксей Зарыцкі. Вакол рэдакцыі „Камуніста" і яго штомесячнага літаратурнага дадатка „Вясна" групаваліся маладыя паэты і празаікі: Хведар Бужан, Хвядос Шынклер, Рыгор Бахта, Мікола Лобан, Алёкса Жукоўскі, Алесь Жаўрук, Пімен Панчанка, Янка Казека, Рыгор Суніца, Апанас Атава, Мікола Аўрамчык. У нашым сямейным архіве захаваліся фотаздымкі многіх з іх, тады малавядомых і вельмі маладых.

## 1937 ГОД І ДАЛЕЙ

Калі ў 37-м бацьку выключылі з камсамола і выгналі з рэдакцыі „Чырвонай змены" „за страту пільнасці і лібералізм", мне было каля трох месяцаў. Пачаўся горкі перыяд нашага жыцця: свайго жылля і ашчаднай кніжкі ў нас не было, на работу бацьку не бралі.

Сяброў стала менш, але нас не пакінулі ў бядзе браты Лыньковы: Рыгор узяў на сваё імя тэрміновую работу і перадаў яе бацьку. Той пачаў перакладаць творы Чэхава і, сумесна з Рыгорам, — паэму Маякоўскага „Добра!"

Хоць бацьку аднавілі на працы праз дзевяць месяцаў, жыць было цяжка. Гаспадыня прыватнага дамка на вуліцы Розы Люксембург, якая здавала нам пакойчык, спалохалася і пагнала з кватэры „лішэнца" і яго сям'ю. Тады Міхась Ціханавіч Лынькоў дамогся праз Літфонд, каб нас пасялілі ў флігельку вартаўніка пры Доме творчасці ў Пухавічах. У гэты час бацька захварэў на сустаўны раматус і пачаў хадзіць з кіёчкам.

У лістападзе 39-га года яго прызвалі ў армію. Служба праходзіла ў Чырвоным Урочышчы пад Мінскам. Там, у час сваёй нядоўгай вайсковай кар'еры, бацька пазнаёміўся з камісарам брыгады Антонам Пятровічам Брынскім, добрым псіхолагам і выхавацелем, будучым легендарным партызанам і ваенным пісьменнікам, Героем Савецкага Саюза. Яны ўсё жыццё падтрымлівалі добрыя адносіны, перапісваліся і сустракаліся, высылалі адзін аднаму свае кнігі.

Бацьку моцна дзівіла, калі праз многа гадоў я, ані дня не адслужыўшы ў арміі, паведамляў пра атрыманае званне капітана ці маёра. А ён як быў, так і застаўся шараговым.

У трыццаць дзевятым бацька браў удзел у вызваленчым паходзе ў Заходнюю Беларусь. Ён стаў сакратаром Беластоцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Неўзабаве мы з мамай пераехалі да яго і ажно да пачатку Вялікай Айчыннай вайны жылі ў Беластоку.

## КАМЕДЫЯ З П'ЕСАЙ

З Самуйлёнкам бацька сябраваў у час сумеснай працы ў газеце „Літаратура і мастацтва”. Эдуард Людвігавіч быў ужо шырока вядомы пісьменнік, працаваў над п'есай „Пагібель воўка”.

Аднойчы, абмяркоўваючы ў сталоўцы сюжэт п'есы, Вітка і Самуйлёнак гучна спрачаліся. З іх вуснаў зрываліся словы, якія ў той час нават ціха вымаўляць было небяспечна: „шпіён”, „падпал”, „забойца” і г.д.

У запале дыскусіі яны не звярнулі ўвагі на „мовазнаўцу ў цывільным”, які, натапырыўшы вушы, сядзеў за суседнім столікам. Той падышоў, паказаў пасведчанне і даставіў літаратараў у „органы”, да нейкага чына са „шпаламі” Ў пятліцах. Чын запытаў іх ласкава:

— Ну, что, голуби, попались? О каких шпионах вы болтали?

У Самуйлёнка адняло мову, ён аслупянеў, як тая жонка біблейскага Лота. Бацька з дрыжыкамі ў голасе пачаў:

— Позвольте объяснить, товарищ начальник. Это — известный белорусский писатель Эдуард Самуйлёнок. Он написал о разгроме банды на границе пьесу, которую собираются поставить в Государственном театре БССР. В столовой мы её обсуждали. Мы оба являемся сотрудниками газеты „Літаратура і мастацтва”...

Праверыўшы дакументы, чын зароў:

— А ну, вон отсюда, писаки! А ты, падла, кого ко мне привёл?

Ён размахнуўся і ўляпіў гучную аплявуху свайму пільнаму падначаленаму. Нашы героі хуценька змыліся, не трацячы часу на развітанне.

Эдуард Людвігавіч памёр праз год. Яму не споўнілася і трыццаці двух гадоў.

## МІКАЛАЙ ПАЎЛАВІЧ

Нездарма на старажытным гербе Слуцка красуецца выява Пегаса. Бацька пісаў:

Мы на Случы ўсе — скакуны,
Завомся сакунамі...

На Случчане Андрэй Кузьме —
Заўсёда родны Хведар.

Гэта слуцкае братэрства, дабрыня і адданасць сяброўству на ўсё жыццё, мяккі гумар у адносінах выявіліся цалкам і поўнасцю ў дружбе бацькі з Міколам Лобанам. Яны пасябравалі падлеткамі праз агульную любоў да кнігі.

У суседняй вёсцы Чаплічы, дзе жыў Коля, яму даверылі бібліятэку ў сельсавеце, якая складалася з пары паліцаў. „Са сваёй вёскі да ягонай я амаль штодня бегаў цераз балота”, — успамінаў бацька. Мікалай Паўлавіч не быў прыгодны да вайсковай службы, але дамогся свайго — пайшоў добраахвотнікам на вайну. Двойчы цяжка паранены, ён ляжаў па шпіталях каля года.

Улетку 44-га, літаральна праз некалькі дзён пасля вызвалення Случчыны, ён пехатой дабіраўся дадому. Па дарозе завітаў да маёй бабкі і цёткі Тасі ў Еўлічы, каб перадаць першую вестку ад нас за гады вайны, што мы ўсе жывыя і здаровыя і хутка вернемся на Радзіму.

Адна з апошніх сустрэч Мікалая Паўлавіча з бацькам адбылася на маіх вачах у Каралішчавічах, дзе мы з Галай і Цімашком адпачывалі ў ліпені 84-га. Да нас на некалькі дзён прыехалі бацькі, і мы абедалі ў сталоўцы на верандзе.

Увайшоў Лобан. Мой стрыманы бацька ўсклікнуў: „Коля! Дарагі!” — і радасна кінуўся да яго. Некалькі дзён яны разам прагульваліся, сядзелі на палянцы і гутарылі.

Ад'язджаючы, бацька наказаў мне прыглядаць за Мікалаем Паўлавічам. Ужо некалькі год той не мог пісаць — не слухаліся рукі (вынік франтавога ранення ў шыйны аддзел пазваночніка). Злёгку згорблены, ён паволі соваўся па дарожках каля дома, а па лесе — не мог (на фронце ён быў цяжка паранены ў ногі — адкрытыя пераломы). Мы разам хадзілі па гэтых дарожках, гутарылі на розныя тэмы. Ён больш слухаў мяне, чым гаварыў.

Сціплы, спакойны, мужны і мудры чалавек, ён мне, урачу, ніколі не скардзіўся на хваробы.

## З АЎТАБІЯГРАФІІ

Я, Вісарыён Цімафеевіч Крысько, нарадзіўся 1 ліпеня 1937 года. Нарадзіўся дачасна, без пазногцяў, і нечым нагадваў павучка. Нягледзячы на гэта, у першы год жыцця я хварэў мала, хаця быў вельмі слабенькі: калі хацеў плакаць, толькі крахтаў. Пазней мама выгаворвала ў сэрцах, што некаторыя тыя дзіцячыя рысы захаваліся дасюль.

Бацькі хуталі мяне ў вату і байку, грэлі рэфлектарам, цягалі па дактарах. Трохі супакоіліся, калі ўзыходзячае свяціла педыятрыі Яўсей Хаімавіч Кацман заверыў іх, што я буду жыць...

Помню сябе з трох гадоў. Дзед Васіль Максімавіч сядзіць на лаўцы ў двары нашага доміка ў Беластоку. Я ўладкаваўся ў яго на каленях. Цёплая восень, заходзіць сонца, непадалёк пыхкае параю цягнік. Дзед напявае пад нос:

— З трубы ідзе дымок...

Я падпяваю яму.

Ішоў 1940 год.

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВАЙНЫ

Пра пачатак вайны бацька напісаў 23 чэрвеня 1979 года: „Хоць ужо мінула столькі гадоў, а тая раніца, калі ў чатыры гадзіны ў Беластоку на нас пасыпаліся бомбы з фашысцкіх самалётаў, мабыць, не забудзецца, пакуль жыву.

З вуліцы Чыстай, дзе мы жылі, каля самай чыгуначнай лініі, праз увесь горад я пабег на вуліцу Міцкевіча, дзе знаходзіўся Саад пісьменнікаў.

Многія дамы ўжо зеўралі прабоінамі, некаторыя ляжалі ў руінах. Завалы цэглы, бітае шкло пад нагамі, сям-там забітыя і параненыя. Пайшлі чуткі аб бандыцкіх нападах на кватэры ваенных і савецкіх служачых ужо ў гэтую ж ноч 22 чэрвеня.

Дзіву даюся і дагэтуль, як, не разгубіўшыся ад такой нечаканасці, мясцовыя ўлады адразу ж мабілізавалі ўвесь наяўны транспарт горада, пачалі эвакуацыю — эшалон за эшалонам.

У наш на паўдарозе пацэліла бомба, састаў разарвала на дзве палавіны.

Запомнілася і такая акалічнасць, што ўжо ў вагоне, калі Вілік і Наташка захацелі есці, аказалася, што хлеба ў нас няма ні кавалачка, хаця тае ж раніцы першае, за што хапаліся людзі, — гэта хлеб.

Каля хлебных магазінаў і ларкоў тоўпіліся чэргі. І мы з Воляй прастаялі нямала, каб узяць па дзве буханкі. Узялі і, ужо меўшы такое багацце, забыліся пра яго ў самую апошнюю хвіліну.

У Мінску 23-га, пакінуўшы сям'ю ў цягніку, я пабег да Лыньковых пытацца, як быць. Старэйшы Міхась загадаў нам з Рыгорам бегчы на вакзал, выгружаць свае няхітрыя рэчы. „Будзем разам”, — сказаў ён.

Прыбеглі мы з Градкам на вакзал, а цягніка няма.

„Куды пайшоў?” — „На ўсход”.

Так літасцівы лёс убярог маю сям'ю...”

## ЭВАКУАЦЫЯ

На гэтым я перапыняю бацькавыя запісы і раскажу, што з намі здарылася. Нам не ўдалося трапіць у Гомель (гэта мамін родны горад), бо везлі цераз Оршу і Смаленск.

Ля Оршы фашысты разбамбілі чыгуначную каляю, і некалькі кіламетраў людзям давялося ісці пешшу. Памятаю вялікае поле са старым дрэвам пасярэдзіне. Пад ім мы адпачывалі. Мама на адной руцэ несла Наталку, а ў другой — рэчы. Я трымаўся за сумку і хныкаў ад стомы. Пазней мама' прызнавалася:

— Прымаўка: „Жыццё пражыць — не поле перайсці” — падман. Я думала тады, што мы выжывем, толькі калі пяройдзем гэтае поле.

У Оршы нас накармілі, выдалі хлеб на некалькі дзён і хуценька эвакуявалі ў Смаленск. Але ў смаленскіх лясах эшалон трапіў пад бамбёжку. Маме ўдалося выцягнуць з вагона, які гарэў, нас, сумку з дакументамі і пухавую коўдру. Ноч мы прасядзелі ў лесе, захутаныя ў коўдру, а вакол усё гарэла. Воляю лёсу нас закінула ў сяло Карлінскае Куйбышаўскай вобласці. Мама працавала ў калгасе. У канцы сорак першага яна даведалася, што „Гомсельмаш” эвакуявалі ў Курган, спісалася з роднымі, і мы паехалі да іх.

## У КУРГАНЕ

Мы жылі на вуліцы Колі Мягоціна. У вялікім пакоі месцілася ўся наша сям'я — 12 чалавек. Дзядуля Грыша (мамін бацька) займаўся шавецтвам. Жанчыны працавалі і вялі гаспадарку, а малыя хадзілі ў дзіцячы садок. Жылі бедна, надгаладзь, але дружна.

У гэты час нас адшукаў бацька. Ён у Маскве быў супрацоўнікам газеты „Савецкая Беларусь”, пасля — адказным сакратаром часопіса „Беларусь”, а таксама падпрацоўваў у партызанскіх сатырычных выданнях. Ён прысылаў нам пасылкі і грошы. Нам з сястрою рэгулярна прыходзілі падарункі ад бацькі: ягоныя цёплыя лісты, цацкі і дзіцячыя кніжкі.

У сорак другім — сорак трэцім гадах бацька перанёс рэцыдыў раматусовага поліятрыту. Хварэў блізу паўгода і доўгі час хадзіў, абапіраючыся на кіёк. Аднойчы ён прыслаў нам партызанскую газету, дзе была надрукаваная „Балада аб чатырох заложніках” Аркадзя Куляшова.

Маці працавала на абаронным заводзе бракоўшчыцай, была актывісткай, удзельнічала ў самадзейнасці, праводзіла палітінфармацыі. Яе неаднаразова прэміравалі. Адну яе прэмію я помню дагэтуль: мяшэчак цукерак-падушачак і адрэз сітцу на сукенку. Маці, як і іншым ударніцам працы, часам давалі выхадныя, дазвалялі абмяняць рэчы ў навакольных вёсках на прадукты...

## СУСТРЭЧА Ў МАСКВЕ

17 жніўня 1944 года намеснік старшыні Саўнакама БССР Маўраў даслаў тэлеграму на імя сакратара Курганскага гаркама партыі з просьбай адкамандзіраваць грамадзянку Лерман Вольгу Рыгораўну (нашу маму) з дзецьмі на пастаяннае месца жыхарства ў горад Мінск.

22 верасня ва ўпраўленні НКУС маме выдалі пропуск на праезд з Кургана да Мінска праз Маскву.

У самым канцы верасня мы былі ўжо ў Маскве. У кругаверці сустракаючых і сустракаемых я адразу згледзеў бацьку, калі натоўп праносіў яго міма, і так голасна закрычаў, што Цімох Васільевіч адразу заўважыў нас.

Бацька прывёз нас у ціхі арбацкі дворык, дзе ў старым флігельку здымаў пакой. Тут мы пражылі два тыдні. За гэты час нагледзеліся ўсяго ўдосталь: амаль кожны вечар грымелі салюты, бацька вадзіў нас у паркі і кіно, у цырку мяне ўразілі славуты клоун Карандаш і бязрукі мастак, які маляваў нагою. Кожны дзень ездзілі на метро, былі на Краснай плошчы, ва універмагу, абедалі ў рэстаране „Нацыяналь”...

Аднак трэба бало збірацца дадому.

## ВЯРТАННЕ Ў МІНСК

У Мінск мы прыехалі ў пачатку кастрычніка. Горад быў разбураны, жыллё знайсці цяжка. Але свет не без добрых людзей. Нас прытуліў у сваім маленькім пакойчыку выдатны чалавек і цудоўны пісьменнік-франтавік Мікола Лупсякоў. Ён абагрэў нас, накарміў, звадзіў у лазню на плошчу 8-га Сакавіка.

Праз тыдзень па хадайніцтве Міхася Лынькова і Кузьмы Чорнага Літфонд Саюза пісьменнікаў выдзяліў для нас маленечкі пакойчык у старым доме па вуліцы Берсана. Пазней мы перабраліся на вуліцу Крапоткіна, а адтуль — на Маладзечанскую, 12. Гэта была ціхая, невялічкая вуліца, спакойныя суседзі. Насупраць нашых веснічак —

уваход у двор маёй любімай хуліганскай 44-й школы, дзе я вучыўся да дзевятага класа.

## ЗДАРЭННЕ Ў ДАРОЗЕ

У лістападзе 44-га, адразу пасля нашага вяртання ў Мінск, бацька паехаў на Случчыну. Усе дваццаць два кіламетры ад Слуцка да Еўлічаў па старым Кацярынінскім шляху, дзе сямтам захаваліся векавыя ліпы і бярозы, дабіраўся пехатою.

Непадалёку ад Селішчаў убачыў, што наперадзе, метрах у дваццаці, шашу пераходзіла зграя сабак. Бацька спыніўся, прыгледзеўся і жахнуўся: „Бацюхна, дык гэта ж ваўкі!..”

Наперадзе ішла ваўчыца. Пасярод дарогі драпежніца спынілася, павярнула галаву і доўга, як здалося бацьку, гладзела на яго, затым адвярнулася і пайшла далей. Кожны з сямі ваўкоў-самцоў паўтарыў гэты рытуал, і ўсе па слядах ваўчыцы перайшлі дарогу. Ваўкі былі сытыя, гладкія, поўсць іх адлівала срэбрам: у лясах і палях спажывы было шмат.

Бацька доўга стаяў, аслупянелы, потым паціху пайшоў далей. З Еўлічаў ён прывёз вестку пра смерць свайго бацькі, майго дзеда.

## ДЗЯДЗЬКА КУЗЬМА

Кожны дзень я езджу на працу па вуліцы, якая носіць яго імя.

Мікалай Карлавіч Раманоўскі, які з першага апавядання падпісваўся псеўданімам Кузьма Чорны, і бацька ведалі адзін аднаго многія гады, але іх блізкае сяброўства пачалося з першых дзён вайны і сумеснай працы ў „Савецкай Беларусі” ды партызанскіх сатырычных выданнях.

Увосень 42-га Мікалай Карлавіч перанёс цяжкі інсульт: яго паралізавала, ён амаль страціў зрок і памяць, яму адняло мову. Два месяцы ён знаходзіўся на мяжы смерці, але не страціў мужнасці і сілы волі і паціху пачаў вяртацца да жыцця й творчасці. У лістах да бацькі Мікалай Карлавіч пісаў, як яму нанова адкрываюцца жыццё і людзі:

„Дарагі братка!

Дачуўся, што ты захварэў на старую сваю хваробу раматус і ляжыш у бальніцы. І так мне нядобра на душы стала... Мае здаецца, што я ўжо не бачыўся з табою вечнасць. Няхай гэтыя хваробы пойдуць агнём і дымам на мокрае, як той казаў, балота. Праўся, братка мой, каб скора ты быў здаровенек. Што да мяне, то я пакрысе

праўлюся... Хаджу ўжо лепш і больш, як у Маскве. Зрок палепшаў значна, але трэба яшчэ чахаць: няхай ідзе час. Я заўсёды казаў і нават пісаў, бо сам гэта многа разоў перажыў быў, што час найлепшы доктар для чалавечай душы. І не толькі душы. Цяпер правяраю гэта яшчэ раз на сабе і людзях...”

Гэты пяшчотны і мужны чалавек валодаў цудоўным дарам заспакоіць, суцешыць і падбадзёрыць блізкіх...

Яны сустрэліся ўжо ў рэдакцыі новага часопіса „Беларусь”, у вольны час наведвалі свой любімы Ізмайлаўскі парк.

Мікалай Карлавіч вярнуўся на радзіму ў канцы верасня 1944 года, а мы — следам за ім. Пазнаёміўся я з дзядзькам Кузьмой ужо ў Мінску. Паволі ступаючы, абапіраючыся на кіёк, ён прыходзіў да нас на вуліцу Берсана. У нашым пакойчыку ўсім размясціцца было немагчыма, і мы з сястрычкай выходзілі на вуліцу. Тратуар на рагу Савецкай і Берсана, насупраць Чырвонага касцёла, дзе знаходзіўся вялізны круглы піўны кіёск, быў нашай дзіцячай пляцоўкай.

Аднойчы мы спаткалі Мікалая Карлавіча каля гэтага кіёска, ён нам набыў пачак нашых любімых вафляў. Бацька часта наведваў сям'ю Раманоўскіх, нярэдка прагульваўся разам з Кузьмой Чорным паблізу яго дома. Праз бацьку нам заўсёды перадавалі гасцінцы ад Мікалая Карлавіча і цёткі Рэні. Мы звалі яго „дзядзькам Кузьмой”, ён не пярэчыў.

Апошні месяц свайго жыцця Мікалай Карлавіч амаль не хадзіў, нарастала агульная слабасць, балела сэрца, але, як ён згадваў у „Дзённіку”, „многа і, здаецца, добра пісаў”. Каля яго ўвесь час знаходзіліся жонка і дачка, часта наведваў і мой бацька. Яны былі з Мікалаем Карлавічам і 22 лістапада — у дзень ягонай смерці.

На другі дзень бацька ўзяў мяне з сабою, каб я развітаўся з дзядзькам Кузьмой, а 24 лістапада маці з бацькам пайшлі на грамадзянскую паніхіду ў БДДТ — Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Янкі Купалы. Пахавалі Мікалая Карлавіча на Вайсковых могілках.

А неўзабаве быў надрукаваны апошні артыкул Кузьмы Чорнага, прысвечаны першаму бацькаваму зборніку „Гартаванне”...

Я не магу ўявіць сабе беларускую літаратуру без Кузьмы Чорнага, як рускую — без Талстога і Тургенева. Мне, можа, як дылетанту, здаецца, што поўнае запатрабаванне творчасці гэтага вялікага пісьменніка яшчэ наперадзе.

## У ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Праз сорак гадоў пасля Вялікай Перамогі ў бацькі запыталіся, як ён сустрэў 9 мая 1945 года. Пра той дзень Вітка напісаў 7 красавіка 1995 года. Не выдумляючы нейкай „экзатычнай" карцінкі, ён расказаў, што знаходзіўся ў родных Еўлічах, дзе запісваў новыя вершы, калі прыбеглі настаўніцы з радаснай навіною.

Яны запрасілі бацьку выступіць на мітынгу, дзе сабраліся настаўнікі, вучні і жыхары вёскі. Як умеў, ён гаварыў прамову, трохі ўзнёслую і ўрачыстую, добра разумеючы, што дзеці і дарослыя плачуць не ад яго слоў, а таму, што ў кожнага свой боль, свая жывая рана. Стараючыся не паказаць слёз, плакаў і сам прамоўца, у якога фашысты закатавалі бацьку.

## КНІГА І ЦУКЕРКА

Гэты вялікі аднатомнік Янкі Купалы, падараваны бацьку Уладзіславай Францаўнай пасля пастаноўкі купалаўцамі „Шчасця паэта", цяпер — гонар маёй бібліятэкі. Цётка Уладзя напісала на франтыспісе:

„Паважанаму тав. В. Вітку ад усяго сэрца, дзякую за яго чуйныя, шчырыя адносіны да памяці Янкі.

У. Луцэвіч"

Яшчэ адзін добры, шчаслівы ўспамін майго дзяцінства — ёлка ў старым Доме пісьменнікаў. Цётка Уладзя была сталай і актыўнай удзельніцай усіх нашых дзіцячых забаў, любіла ўручаць падарункі.

Калі мне было дзесяць ці адзінаццаць гадоў, я атрымаў на ёлцы цікавую кніжку і каробку цукерак. Паколькі было ўжо сорамна валтузіцца з малышнёй у карагодзе, я схаваўся ў кутку паміж нейкімі кустамі і пачаў чытаць. Уладзіслава Францаўна мяне адшукала, доўга дакарала і адправіла весяліцца, але я хуценька збег.

Мілая цётка Уладзя! Не маючы сваіх дзяцей, яна любіла ўсіх нас і для кожнага знаходзіла добрае слова ці ласунак. Праз многа гадоў, калі я ўжо быў студэнтам-медыкам, мы выпадкова сустрэліся з ёю. Я прывітаўся. І яна спытала:

— Чый жа ты будзеш, хлопча?

Я адказаў.

— Ну, што там зараз піша дзядзька Цімох?

Яна распытала пра маіх родных, пра жыццё, а потым працягнула мне... вялікую цукерку. Я пацалаваў Уладзіславе Францаўне руку і развітаўся. Болей я яе не бачыў.

Вечная табе памяць, добрая душа!

## КАВУНЫ НА ДАРОЗЕ

З Краўчанкамі многа гадоў мы жылі ў адным доме: Усевалад Ігнатавіч сябраваў з бацькам, а маці — з мілай цёткай Дусяй — Еўдакіяй Емяльянаўнай, якая выдавала мне з Наташай кнігі ў бібліятэцы Саюза пісьменнікаў. Помню крыху трагікамічную гісторыю, што адбылася з дзядзькам Севам.

Аднойчы восенню, у суботу, ён зайшоў да нас:

— Збірайся, Ціма, паехалі ў Каралішчавічы. „Масквічоў' гатовы, я кавуноў накупіў і яшчэ сяго-таго. Адпачнем, а заўтра вечарам вернемся. І Віліка бяры.

Але ў бацькі былі рэдакцыйныя справы, і ён паабяцаў, што прыедзе пазней. Усевалад Ігнатавіч паехаў, а бацька праз гадзіну дабіраўся на аўтобусе.

Ад шашы да Дома творчасці — кіламетры тры па гравійцы. За паваротам дарогі мы ўбачылі перавернуты дагары коламі „Масквіч". Навокал валяліся розныя рэчы: адзенне, бутэлькі, кнігі, паперы і... кавалкі ўшчэнт разбітых кавуноў. Гаспадар машыны сядзеў, збялелы як палатно, і, гледзячы некуды паверх дрэў, еў кавуны.

Бацька падскочыў да яго, пачаў трэсці, крычаць, паіць карвалолам. Калі дзядзька Сева апамятаўся, яны пайшлі далей разам.

Машыну паднялі добрыя людзі, яна аказалася непашкоджанаю...

Другі выпадак. Калі ў 1958 годзе я здаваў дакументы ў прыёмную камісію мединстытута, непрыемна ўразіла мяне заўвага сакратара, што я буду паступаць на агульнай аснове, бо не маю льгот: не хапіла аднаго месяца рабочага стажу.

У роспачы я вярнуўся дамоў і ў двары спаткаў Усевалада Ігнатавіча:

— Ты чаго, Вілік, такі невясёлы?

Я ўсё расказаў яму.

— Не бяда. Думаю, што ўсё абыдзецца.

Пад вечар ён прынёс мне даведку — дадатак да працоўнай кніжкі, што я больш за месяц працаваў у часопісе „Бярозка" карэктарам. На шчасце, даведка не спатрэбілася, але дабрыню дзядзькі Севы я помню ўсё жыццё.

## ГАСЦІННЫ ДОМ

Дзе б ні жыў бацька, ён меў многа сяброў-пісьменнікаў. Яны заходзілі да нас і падоўгу вялі размову пра літаратуру, пра жыццё.

Сяброўства бацькі з Яўхімам Коханам, таленавітым паэтам-лірыкам, пачалося яшчэ ў юначыя гады. Разам друкавалі свае першыя вершы ў дадатку „Вясна” да газеты „Камуніст”, дзе рэдактарам быў Міхась Лынькоў.

У 30-ыя гады Яўхім Іванавіч не па сваёй волі апынуўся ў Расіі. Пасля вайны сябры знайшлі адзін аднаго, перапісваліся, некалькі разоў Кохан прыязджаў да нас. Тады з бацькам яны падоўгу ўспаміналі Лынькова, Мікуліча, іншых сяброў, сваю маладосць і Бабруйск...

Наш стары дом доўга памятаў сціплага, глыбока інтэлігентнага Пятра Глебку, ягоную дачку Ларысу, Яна Скрыгала з Ганнай Міхайлаўнай, Янку Брыля з Нінай Міхайлаўнай, добрую Ядвігу Паўлаўну Навуменка.

Не абмінаў нашага дома і Максім Танк. Яўгена Іванавіча — прыгожага, высокага і зграбнага чалавека — я ведаў і любіў з маленства. Ён быў сапраўднаю душою застолля.

З Уладзімірам Дубоўкам мы пазнаёміліся ў 1958 годзе, калі ён вярнуўся ў свае родныя мясціны пасля дваццацівасьмігадомай ссылкі. Гэта ён яшчэ ў 20-ыя гады XX стагоддзя напісаў свае знакамітыя радкі, прысвечаныя роднай краіне:

О, Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет,
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасцеш!..

Дубоўка быў цудоўны чалавек, з глыбокімі і добрымі вачыма. Ягонае аблічча, што нагадвала мне легендарнага волата — князя Усяслава Чарадзея — я ўспамінаю да гэтага часу.

Некалькі лістоў, кніг, падораных нам, фотапартрэт з аўтографам захаваліся дагэтуль. Дарэчы, на „Палескай рапсодыі”, Дубоўка напісаў: „... на ўспамін аб нашым спатканні, каб яно было не апошнім”.

На шчасце, мы бачыліся з ім яшчэ не раз, хаця Уладзімір Мікалаевіч стала жыў у Маскве...

## НАША ВЫХАВАННЕ

Мая мілая, добрая мама, барацьбітка за справядлівасць, часам магла накрычаць і нават (які жах!) шлёпнуць ручніком. Хаця ў цэлым мы былі паслухмяныя дзеці.

У самы пік мамінага выхавання з кабінета з'яўляўся бацька. Ён станавіўся ў дзвярах, рабіў сумны выгляд, распасціраў рукі, хапаўся за галаву — і ўсё моўчкі.

На гэтым выхаваўчы парыў нашых родных гаснуў, калі мама не пераключалася на бацьку. Ён, дарэчы, нікога ніколі не караў: дастаткова было незадаволенага погляду альбо некалькіх „ласкавых" слоў. Мяне толькі аднойчы крутануў за вуха ды адапхнуў — і то за справу.

Мае родныя старыя, тады яшчэ такія маладыя...

## КАБ РАСЛІ БАРАВІКІ

Бацька добра ведаў і любіў лес, з задавальненнем прагульваўся па ім, асабліва раніцай і ўвечары. Ён навучыў мяне збіраць грыбы: мы разам хадзілі ў лес каля Еўлічаў, у Каралішчавічах, на Нарачы.

Бацька меў незвычайны талент да збору грыбоў: пройдзе па вытаптанай сцежцы, дзе да яго многія прайшлі, падыме кіёчкам лапку ельніка — добрая сямейка баравікоў, адгорне траву — падасінавік, раскідае лісце — маслякі... Потым мама іх смажыла ці тушыла з бульбай — смаката!

Мая сястра Наташа ўспамінае:

— У гарачае, засушлівае лета ў Каралішчавічах мы заўважылі, што бацька кожны вечар падаваўся ў глыб лесу з графінам вады ў руцэ. Аказалася, што, адшукаўшы сямейку грыбоў, ён паліваў іх і закрываў яловымі лапкамі.

## **КІЁК**

У маладосці бацька перанёс сустаўны раматус, потым былі цяжкія рэцыдывы: калі мне было ўсяго некалькі месяцаў, ён амаль на паўгода быў прыкаваны да ложка. Пасля вайны лячыўся ў санаторыях, хадзіў з кіёчкам з сярэбранай булдавешкай у выглядзе драконавай галавы.

На Нарачы хлапчуком я выразаў для бацькі добры кіёк з ядлоўца — сапраўдны посах, асмаліў яго на вогнішчы і адпаліраваў лісцем папараці. Бацька любіў з ім гуляць і хадзіць у грыбы. Кіёк захаваўся дагэтуль, зараз на яго абапіраюся я. Аднойчы сасніў, што згубіў яго, і доўга плакаў у сне...

## НЕ СПАДАБАЎСЯ ВЫРАЗ ТВАРУ

У сталым узросце бацька рэдка мог выбрацца ў лес, але любіў гуляць у Купалаўскім скверы. Аднойчы пад вечар, калі ён ішоў, абапіраючыся на ядлоўцавы посах, насустрач беглі два падлеткі і брудна лаяліся. Вітка зрабіў ім заўвагу.

Адзін з нягоднікаў падскочыў да старога і з усяго маху ўдарыў яго пад дых.

Мне нічога не сказалі, хаця я званіў бацькам штодзень. Толькі праз два дні, калі я наведаў іх, мама пацішу паведала мне пра гэта.

Я аглядзеў бацьку і прапанаваў пару дзён пагуляць разам у скверы. Яму не спадабаўся выраз майго твару, і ён адмовіўся ад суправаджэння.

## МУЗЫКА

Я заўсёды дзівіўся бацьку, які, маючы за плячыма толькі сямігодку, прафтэхшколу і літаратурныя курсы, так многа ведаў. Мяне і сястру Наташу ён пачаў далучаць да мастацтва з маленства.

Музыка ў нашым выхаванні займала значнае месца.

Зруйнаваны Мінск таго часу часта наведвалі музыканты-салісты, аркестры і ансамблі з усяго Савецкага Саюза, ладзячы выступленні, у тым ліку і для дзяцей. Па дзіцячых абанементах мы хадзілі з бацькам па канцэртах некалькі гадоў. Слухалі Сяргея Лемешева і Івана Казлоўскага, Ларысу Александроўскую і Ісідара Балоціна, Ірыну Архіпаву і Давіда Ойстраха» Леаніда Когана і Дзмітрыя Кабалеўскага, Галіну Чэрны-Стэфаньску...

Бацька добра ведаў і любіў класічную і духоўную музыку і многа пісаў пра яе. На паліцы каля стэрэасістэмы стаялі яго любімыя пласцінкі, якія ён часта слухаў.

На канікулах пасля другога курса, як і іншыя хлопцы з нашага інстытута, я працаваў падручным муляра на будоўлі „Беларусьфільма”. На зробленыя грошы купіў прайгравальнік і пласцінкі — пачатак маёй фанатэкі: „Рэквіем” Моцарта, сімфоніі і канцэрты Пятра Чайкоўскага і Людвіга ван Бетховена, арыі з опер і песні ў выкананні Фёдара Шаляпіна, Леаніда Собінава, Антаніны Няжданавай, Элы Фіцджэральд, Эрнста Буша...

## ЗА СІНЯЙ ПТУШКАЙ!

Гадоў каля трыццаці таму было цяжкавата з прадуктамі і ў СП (Саюзе пісьменнікаў) для сем'яў пісьменнікаў пачалі выдаваць наборы па памяркоўных коштах: кволае кураня другой катэгорыі, пачак масла, крупы, цукар і чай. Па гэтыя наборы хадзіў я, а часам — бацька. Аднойчы ён сустрэў у парку Горкага Алеся Пальчэўскага. Той спытаў:

— Ціма, ты куды?

— За сіняй птушкай!

## „БОРЩ”

Пасля нейкай нарады ў Саюзе бацька з сябрамі зайшлі перакусіць у кавярню. Юная афіцыянтка з прыемным беларускім абліччам, на шчасце, яшчэ не зусім зачэпленым „цывілізацыяй”, прынесла ежу і запытала гучна:

— В кого борщ?

Дзяўчынцы так хацелася выглядаць „городской” !..

Бацька не вытрымаў:

— В меня!

## ЮБІЛЕЙ

16 мая 1961 года ў старым Саюзе пісьменікаў праходзіў юбілейны вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння бацькі.

Уступнае слова, цёплае і шчырае, гаварыў Міхась Ціханавіч, а даклад аб творчасці юбіляра — Янка Казека, даўні, яшчэ з бабруйскага часу, сябар. Спяваў народныя песні невялікі хор з Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы імя Р.Р. Шырмы. Іван Браніслававіч Шаціла — выдатны акцёр-купалавец, бацькаў сябар, прачытаў „Нясказанае слова”, дзе словы Лынькова вымавіў голасам аўтара.

Было цёпла і радасна, даносіліся гул і грукат з Цэнтральнай плошчы: узрывалі помнік Сталіну. Гэты шум не сапсаваў агульнага настрою: канцэрт закончыўся позна.

## РЫЦАРЫ „ЖАЛЕЗНЫХ ДЗЯЎЧАТ”

Памятаю з юнацтва: усё пачыналася з тэлефоннага званка Алеся Бачылы. Ён запрашаў бацьку на спатканне з „жалезнымі дзяўчатамі”

— купалінкамі са славутага фантана Купалаўскага парка. Пасля званіў іншым.

Амаль штодня летам і ўвосень, радзей — узімку і вясной яны збіраліся ля фантана: два Алесі — Бачыла і Пальчэўскі, два Аляксеі — Русецкі і Зарыцкі, адзін Мікола — Лобан і адзін Цімох, ён жа Васіль, іншы раз да іх далучаліся два Янкі — Брыль ды Скрыган.

Яны шпацыравалі па набярэжнай Свіслачы ад моста да моста, гутарылі, спрачаліся, дзяліліся самым запаветным. Я быў тады першакурснікам, захапляўся старажытнай філасофіяй і празваў іх „перыпатэтыкамі”. Хто выконваў ролю Арыстоцеля, не ведаю, але думаю, што Бачыла, якога астатнія чамусьці звалі „брыгадзірам”. 32

## ЛІСТЫ ДА МЯНЕ

*9 сакавіка 1942 г.*
*Масква*

Мой хороший, мой дорогой сынок!

Вот я тебе посылаю открытки, а ты мне на них пиши письма. Мама, наверно, ленится мне писать, так ты ей всегда напоминай. Как только встанешь утром, спрашивай:

— Ну, написала, мама, папе письмо? Давай будем писать.

Мой милый сыночек! Как ты живешь, слушаешься ли маму? Ее надо слушать. Виленька, она хорошая, мама, ей надо помогать. Наталочка еще малая, а ты большой. Ты помогай и маме, и Наталочке. Натку тоже нельзя обижать, она хорошая девочка. Ты ее поцелуй за меня. Ты, сыночек, поправляйся. Старайся побольше кушать. Все, что тебе дает мама или бабушка, то все съедай. Виленька, не пей сырой воды, всегда проси, чтобы тебе дали кипяченую.

Я тебе и Наталочке послал из Москвы книжечки с картинками. Пришлю вам еще. Только не надо рвать. Какие ты новые стихи выучил? Ты проси маму, чтобы она тебе читала стихи и книжки. Помнишь ли ты еще «Трудно дело птицелова»? Это хороший стих. [Верш Эдуарда Багрыцкага «Птицелов» быў першым у маім жыцці, яго я вывучыў у тры гады. — В.К.].

Когда я приеду к вам или ты с мамой и Наталочкой ко мне приедете, ты мне расскажешь все новые стихи, что ты выучил.

Поправляйся, сынок. Когда будешь выходить на улицу, всегда иди с мамой. Тепло одевайся.

Целую тебя.

Твой папа.

*15 лістапада 1957 г.*
*Ялта, Дом творчасці*

... Вчера мы были на концерте. Из отдыхающих в нашем доме желающих послушать музыку... нашлось трое: Ник. Шпанов, инженер, муж Спендиаровой и я... Наиболее крупные культурные события происходят здесь в помещении, носящем название «Театр им. Чехова», на набережной. На этом здании мемориальная доска, надпись на которой гласит, что в этом театре МХАТ ставили пьесы Чехова «Чайка» и «Дядя Ваня». Здесь бывали... Чехов, Горький, Мамин-Сибяряк, Рахманинов, Куприн, Васнецов, Немирович-Данченко.

... Я с удовольствием читаю каждый день по небольшой порции книгу... «Рассказы о животных» [Э. Сетона-Томпсона. — В.К.]. Это замечательная книга! Ты, наверно, уже находишься в отпуске и тоже читаешь, и, конечно,... лошадиными порциями! Как знатоки пьют хорошее вино маленькими глотками, смакуя его аромат, так надо читать и хорошую книгу, чтобы постичь всю ее прелесть. Хороший, взыскательный вкус воспитывается только хорошими вещами искусства, а потом, уже когда он есть у человека, этот вкус, ему легче узнавать подделку, фальшь, халтуру. Ты — будущий доктор, а доктора всегда ценят в организме иммунитет, невосприимчивость к болезням. Хороший вкус — это иммунитет, надежная защита человека от заразы.

Да здравствует хороший вкус!

Ура!

Папа.

*1 кастрычніка 1966 г.*
*Варна, Дом творчасці*

Карточки моих внучек стоят передо мной на столе, на котором я пишу ату открытку...

MORIAR STANDO

Бацька напісаў гэты верш 7 чэрвеня 1993 года. У перакладзе назва яго гучыць — „Памру стоячы”.

... Калі Маці Прачыстая
Да забраных далучыць,
Толькі б годнасцю выстаяць,
Родных, блізкіх не мучыць...
Як зарок дапаможа
Я, і ўпаўшы, устаў бы.
Уздыхні вольна, ложах,
Moriar stando.

5 ліпеня 1996 года каля шасці гадзінаў раніцы бацька ўстаў, падышоў да пісьмовага стала і ўпаў...

Ён памёр стоячы.

## АПОШНІ СПАЧЫН

На паніхідзе па бацьку ў Саюзе пісьменнікаў гучала музыка Моцарта, Бетховена, Шапэна, Свірыдава, якую ён так любіў. Было многа людзей: родныя, сябры, суседзі, лімаўцы, вясёлкаўцы, студэнты педагагічнага універсітэта... Кожны з нас трымаў у руцэ запаленую памінальную свечку. Свечы прывёз з храма Раства Божага ў Іерусаліме мой зяць Юрый.

Развітваючыся, Сяргей Іванавіч Грахоўскі, што дружыў з бацькам яшчэ з Бабруйска, сказаў:

— Бывай, мой дарагі, мой апошні дружа юнацтва!..

Яшчэ раней бацька, бываючы ў Еўлічах, падабраў сабе месца на пагосце. Яно было пры ўваходзе, каля трох бярозак — там, дзе ляжалі яго бацькі, бабка Аксеня і дзед Максім. Але мама памерла першай... Бацьку мы пахавалі разам з ёю, у Мінску, на Паўночных могілках.

## БАЦЬКАВЫ АЎТОГРАФ ДЛЯ НАС

Прайшло дзесяць гадоў, як няма з намі цябе, наш дарагі чалавек, але мы не забываем цябе. Часам згадваю, як радаваўся ў дзяцінстве, калі чытаў у падручніку „Родная літаратура" твой верш, прысвечаны мне: „Гляджу ў твае чыстыя вочы..."

На любімым табой і мной зборніку „Случчына" ты напісаў: „Майму сыну Вісарыёну — парастку нашага слуцкага дрэва і яго галіне — Галіне. Стары корч".

Ілюстратар „Случчыны" — цудоўны мастак-графік Уладзімір Самойлавіч Басалыга, случчанін — стварыў для тваёй бібліятэкі вельмі прыгожы экслібрыс, які з часткаю кніг я атрымаў у спадчыну.

Да першага Новага рода Цімашка, твайго ўнука, на кнізе „Дзецям" ты напісаў:

З Новым годам, Цімашок,
Дарагі наш малышок,
Навагодні Дзед Мароз
Жадае, каб хутчэй ты рос!
Твой дзед Цімох.

Кніга „Трэцція пеўні", дзе на супервокладцы месціцца твой фотаздымак з канём, падпісаная наступным чынам:

Свайму старому Пегасу!
Табе на ўспамін восі, такімі радкамі
Сваё прысвячэнне аздоблю:
Былі калісьці і мы рысакамі,
Пакуль не спазналі хамут і аглоблю.

Часткова я аднošу гэта і да сябе — мне тады ўжо мінула 50, а зараз час імкліва спяшаецца да 70-ці. Але жыць хочацца — дзеля сваіх блізкіх, дзеля захавання памяці пра цябе, тата!

# Частка другая

# МАГІЯ СЛОВА

## МАЕ НАСТАЎНІКІ

Цяпер, з вышыні пражытых гадоў, мне бачацца чатыры асобы, якія паўплывалі на тое, што я стаў пісьменнікам. Гэта Павел Бензярук, Уладзімір Калеснік, Янка Брыль і Васіль Вітка. Кожны меў свай уплыў на мяне, на маю творчасць, хаця часам гэтыя ўплывы перакрыжоўваліся.

Для брата — гады падлеткавыя і юначыя. Сам Павел, вельмі начытаны школьнік і студэнт, пісаў апавяданні і аповесці, а тым самым неяк і мяне наблізіў да пісьменства. З часам брат выбраў для сябе зусім не літаратурную дарогу, а я пішу дасюль...

1961 год. Я — студэнт філфака Брэсцкага педінстытута. Нейкім сваім унутраным чуццём Уладзімір Андрэевіч Калеснік улавіў, што я магу выступаць пры абмеркаванні кніг. У студэнцкія гады мне выпала бачыць Мележа і Шамякіна, Брыля і Навуменку, Караткевіча і Барадуліна.

У інстытуце былі напісаны апавяданні, вершы і першая аповесць „Судьба одинокой птицы" — і нічога не надрукавана. Аповесць я паказаў Калесніку. Ён, прачытаўшы, прапанаваў:

— Паспрабуй надрукаваць у часопісе „Нёман"!

Але я адклаў гэтую справу на некаль год.

Выручыў яго вялікасць выпадак. У 1969 годзе, прачытаўшы ў „Нёмане" апавяданні маладых беларускіх пісьменнікаў з прадмовай Янкі Брыля, я нарэшце рашыўся паслаць аповесць у часопіс, але ў лісце прасіў, каб перш прачытаў яе Іван Антонавіч. Затым адабраў лепшыя апавяданні і вершы і, нарэшце, атрымаў адказ. Янка Брыль прапаноўваў дапрацаваць апавяданне „Ленкин характер" і даслаць у газету „Зорька".

Я зноў не спяшаўся, але ў лістападзе 1969 года аказаўся ў Каралішчавічах на семінары маладых літаратараў. Сюды прыязджала рэдактар „Зорьки" А.Ф. Мазурава і адабрала для друку якраз тое апавяданне, што прапаноўваў Брыль.

І, нарэшце, сустрэча з Васілём Віткам. Цімох Васільевіч, перш чым я сам, зразумеў, што мае чытачы — дашкольнікі ды малодшыя

школьнікі і ўхваліў мае казкі. А адну — „Зайцаў кажушок” — уключыў у школьныя падручнікі. Ды пра гэта раскажам трохі пазней.

Добра дапамагалі ў час майго станаўлення Алесь Пальчэўскі, Мікола Чарняўскі і Алена Васілевіч. Усіх іх я лічу сваімі настаўнікамі і нізка схіляю галаву перад памяццю Алеся Восіпавіча, Івана Антонавіча, Уладзіміра Андрэевіча і Цімоха Васільевіча. Дзякуй усім за падтрымку і веру ў мяне!

## СУСТРЭЧА ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ

Я першы раз у Каралішчавічах. Пра дом Саюза пісьменнікаў Васіль Вітка напісаў:

Гуртамі стаяць падбярозавікі
Пад кожным зацішным кустам,
А рыфмаў, эпітэтаў, вобразаў
Касою касі — так густа.
... І вершы ў Каралішчавічах
Самі сабою пішуцца.

У адзін з лістападаўскіх дзён „апусціўся” ў Каралішчавічах пісьменніцкі „дэсант” — ад Янкі Брыля, Івана Шамякіна, Васіля Віткі і да самай юнай паэткі Жэні Янішчыц, якая яшчэ чакала выхад сваёй першай кніжкі.

Спачатку пісьменнікі расказвалі пра сябе, чыталі свае творы, але пасля пра пісьменніцкае майстэрства вырашылі распавесці Янка Брыль і Васіль Вітка. Кожны мог выбраць, да каго ісці.

Я пайшоў да Янкі Брыля. Як тады здавалася, гэта быў адзіна правільны выбар: я сустракаўся з Іванам Антонавічам двойчы ў Брэсце, браў удзел у прэзентацыі (тады гаварылі прасцей — у абмеркаванні) рамана „Птушкі і гнёзды”, меў аўтограф. Дый тут, у Каралішчавічах, апынуўся толькі дзякуючы падтрымцы Івана Антонавіча.

Праўда, вярнуўшыся ад Віткі, Васіль Шырко (жылі ў адным пакоі) доўга не хаваў свайго захаплення ад таго, што пачуў. Гэта мяне трохі здзівіла, бо на той час Шырко пісаў „дарослыя” вершы і меў ужо нізку ў часопісе „Маладосць”.

Да слова скажу, што ў хуткім часе Васіль пяройдзе на прозу і выдасць цудоўную кніжку казак „Дзед Манюкін не салжэ”.

Мае ж сустрэчы з Віткам былі яшчэ наперадзе.

## ВУЧЫЦЕСЯ Ў СУХАМЛІНСКАГА

Акрылены паездкай у Каралішчавічы, я, вярнуўшыся, засеў за апавяданні. Не толькі пісаў новыя, але й перакладаў з напісанага раней па-руску.

У першыя дні студзеня 1970 года, калі ў школах пачаліся зімовыя канікулы, паехаў у Мінск. Каб пазнаёміцца з работнікамі рэдакцый і сваё паказаць. У адзін дзень пабываў у газеце „Піянер Беларусі”, у часопісах „Вясёлка” і „Бярозка”.

„Вясёлка” сустрэла сваім знакамітым „трыо”: Алесь Пальчэўскі, Сяргей Грахоўскі і Васіль Вітка. Даведаўшыся, што я вясковы настаўнік з Палесся, што прывёз апавяданні, Цімох Васільевіч адразу перадаў мяне ў рукі Алеся Пальчэўскага: ён, маўляў, адказны сакратар рэдакцыі, сам піша харошыя апавяданні і аповесці пра школу, разбярэцца...

Добры Алесь Восіпавіч, які ў часы сталіншчыны аказаўся далёка ад Беларусі. Здавалася, стараўся не пакрыўдзіць нікога. Мае слабенькія апавяданні разбіраў вельмі тонка і добразычліва, каб не адбіць ахвоту пісаць. Болей таго, пра апавяданне „Ці прачнецца раніца?” Пальчэўскі сказаў так:

— Апавяданне харошае, але ўзрост героя не падыходзіць для „Вясёлкі”. Вы пашліце ў „Работніцу і сялянку”. У іх ёсць рубрыка „Мама, пачытай!” Яны абавязкова возьмуць.

І сапраўды, у чэрвеньскім нумары „Работніцы і сялянкі” з'явілася гэтае апавяданне.

Васіль Вітка, пакуль Пальчэўскі гаварыў са мною, займаўся сваімі справамі, а то адарваўся ад чытання і запытаў:

— Што вы чулі пра Сухамлінскага?

Яшчэ ў інстытуце па педагогіцы даводзілася знаёміцца з артыкуламі знакамітага настаўніка. Ведаў, што ён працуе дырэктарам у вясковай школе ва Украіне. Так і сказаў Цімоху Васільевічу.

— А ведаеце, што Васіль Аляксандравіч піша апавяданні для дзяцей? — хітравата ўсміхнуўся Вітка. — І паглядзіце, як піша!..

Цімох Васільевіч падаў свежы нумар „Вясёлкі” з апавяданнямі Сухамлінскага, якія прымусіў загаварыць па-беларуску сам Вітка, а малюнкі да іх зрабіў Алег Луцэвіч.

І зараз, калі чытаю Віткава прызнанне пра Васіля Аляксандравіча: „Тонкае адчуванне паэзіі маленства, глыбокае пранікненне ў псіхалогію дзіцяці адразу ж выявілі ў ім талент дзіцячага пісьменніка”, — мне чамусьці здаецца, што яны былі сказаны яшчэ тады, пры першай сустрэчы.

Развітваючыся, Цімох Васільевіч сказаў:

— Калі вы навучыцеся гэтак пісаць, тады можаце лічыць сябе дзіцячым пісьменнікам.

У 1971 годзе, набыўшы кнігу В.А. Сухамлінскага „Блакітныя жураўлі”, дзе былі сабраныя і апавяданні, і казкі, і прытчы, і абразкі, я зразумеў, як высока Васіль Вітка падымаў плешку, заклікаючы моладзь вучыцца ў слыннага педагога.

## ПРА ЗАЙЦАЎ КАЖУШОК

Прайшоў год. Ізноў студзень. Ізноў канікулы. Ізноў еду ў Мінск. У рэдакцыі „Вясёлкі” на гэты раз мяне сустрэў толькі Вітка. Ведаючы, што я прыехаў здалёк, Цімох Васільевіч пасадзіў насупраць і прапанаваў:

— Чытайце, што прывезлі!..

І я стаў чытаць. Адно апавяданне, другое, трэцяе... Вітка слухаў, не перапыняў. Калі ж я закончыў, запытаў:

— І ўсё?..

Я зразумеў, што апавяданні не спадабаліся галоўнаму рэдактару, і, умомант адчуўшы, як перахапіла горла, ледзьве выдавіў:

— Есць яшчэ... дзве казкі...

— Прачытайце, калі ласка.

Першая казка называлася „Зайцава футра”. Па меры чытання мяняўся і Цімох Васільевіч. Ён то здымаў акуляры, праціраў шкельцы, быццам тыя ўраз запацелі, то зноў адзяваў. Рукі яго рухаліся, а твар ажывіўся. Затым Васіль Вітка сказаў упэўнена:

— Гэта лепшае, што вы сёння прачыталі, — і праз хвіліну: — А чаму „Зайцава футра”? Футра — у лісы, у мядзведзя, а ў зайца — кажушок. Так-так, кажушок. Падумайце: „Зайцаў кажушок”, — і дзіўна прыцмокнуў языком, мусіць, ад сваёй знаходкі.

Я прачытаў і другую казку „Яблыня”. Яе таксама ўхваліў рэдактар. Параіў дапрацаваць абедзве і даслаць у „Вясёлку”.

Ужо ў красавіцкім нумары часопіса быў надрукаваны „Зайцаў кажушок”, а трохі пазней — і „Яблыня”. Неўзабаве з лёгкай Віткавай рукі „Зайцаў кажушок” трапіў на старонкі падручнікаў. Яго чыталі на абласным тэлебачанні, зрабілі перадачу для „Калыханкі”. І сёння школьныя настаўнікі памятаюць казку, напісаную трыццаць пяць гадоў таму.

# НЯПРОЙДЗЕНАЯ ДАРОГА ДА БАСТЫНІ

Пяць пасляінстытуцкіх гадоў я працаваў на Лунінеччыне — у Бастынскай сярэдняй школе. Вёў урокі рускай мовы і літаратуры. Адсюль ездзіў у сталіцу, у рэдакцыі.

У сакавіку 1971 года я зноў быў у „Вясёлцы”. Сустрэлі мяне як добрага знаёмага. Гэта, мусіць, і сыграла са мной злы жарт. Нечакана я пачаў расказваць, якая ў нас вялікая школа, аж пад 600 вучняў, што дзеці ніколі не бачылі жывых пісьменнікаў, і запрасіў вясёлкаўцаў прыехаць выступіць у нас.

Запрасіў і асекся: дальбог, спалохаўся сваёй смеласці» Па вуснах Цімоха Васільевіча прабегла ледзь прыкметная ўсмешка:

— А што, хлопцы, з'ездзім і выступім? Каб дзеткі ўбачылі жывых і сівых пісьменнікаў, — і правёў далонню па белых валасах.

Я прыняў ягоныя словы за насмешку, але хлопцы — Пальчэўскі і Грахоўскі — заківалі галовамі:

— Мо-ожна!..

— А як да вас даехаць? — спытаў на поўным сур'ёзе Вітка. — Цягніком ці самалётам? (Гэта быў час, калі пісьменнікі менш ездзілі на легкавушках).

— Цягніком. Можна ехаць да Лунінца і вярнуцца, а можна, не даязджаючы, і ў Бастыні сысці.

— Добра, — сказаў Вітка. — Даручым Алесю Восіпавічу спісацца з вамі. Мы тут парахуем разам і, як будзе трохі вальней, прыедзем!

Усё гэта адбылося так нечакана, так апантана, што я, вярнуўшыся дамоў, усё яшчэ не верыў... Але неўзабаве прыйшоў ліст ад Пальчэўскага. Ён паведамляў, што вясёлкаўцы прыедуць да нас у маі, адразу пасля свята Перамогі.

Я адчуў сябе самазванцам: запрасіў гасцей, не спытаўшыся ні ў кога, а як у школе аднясуцца да гэтага? З пісьмом пайшоў да дырэктара Рашатко.

— Добра. Вельмі добра! — адразу падтрымаў Уладзімір Іосіфавіч. — Трэба толькі падумаць, як сустрэць пісьменнікаў і як потым пачаставаць.

— Пачастунак я бяру на сябе.

— Э не, Расціслаў Мацвеевіч, тут напісана, што не да вас у госці прыязджаюць пісьменнікі, а ў школу, каб выступіць перад вучнямі. Вось школа і паклапаціцца пра сустрэчу...

Мы ўжо сталі рыхтавацца да сустрэчы, як прыйшоў яшчэ адзін ліст ад Пальчэўскага. Алесь Восіпавіч паведамляў, што іх прыезд у

Бастынь адкладваецца, бо Цімох Васільевіч захварэў і лёг у бальніцу, а ехаць без рэдактара не выпадае...

Але другога разу ўжо не было, бо ў тое лета я з'ехаў з Бастыні...

## ЗАГЛАЖВАННЕ ВІНЫ

Доўгія гады я адчуваў вінаватасць перад вучнямі Бастынскай школы за тое, што сарвалося абяцанае спатканне. Толькі ў 1998 годзе, калі мяне прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, я вырашыў выправіць даўнюю памылку.

Некалькі дзён я знаходзіўся ў Лунінцы, у родзічаў жонкі. Аднойчы пазваніў у Бастынскую школу і напрасіўся на сустрэчу. У мяне перад гэтым выйшлі дзве кніжкі „Чаму Сонца рана ўстала?" і „Тры свечкі". Некалькі гадзін мы гутарылі пра казкі і паэзію.

Дзеці падарылі мне рэчы, зробленыя сваімі рукамі. Адна — асабліва дарагая. Назваў яе, як некалі Вітка казку маю, — „Зайцаў кажушок". Гэта ігольніца з выпіленай зайчыхай, якая шые адзенне.

Праўда, як былі малыя ўнукі, яны разламалі ігольніцу. Ды зайчыха ўсё-такі засталася і захоўваецца сярод каштоўных рэчаў...

## ПАД ПЕСНІ ВЕСНАВЕЯ

Набліжаліся мае 60-ыя ўгодкі. Вырашыў выдаць кніжку выбраных казак. Назва якая? Канечне, „Зайцаў кажушок" з прысвячэннем светлай памяці Васіля Віткі.

Яна прыспела к юбілею. 27 лютага 2004 года ранкам пазваніў з Мінска Мікола Чарняўскі, павіншаваў з днём нараджэння, папрасіў прабачэння за тое, што не можа быць на ўрачыстасці, і прачытаў свой верш-экспромт:

Пад песні веснавея
Налі па беражок...
А нас няхай сагрэе
Твой „Зайцаў кажушок"!

Адну з кніжак я падарыў сыну Васіля Віткі — Вісарыёну Цімафеевічу Крысько, а заадно і падахвоціў яго напісаць успаміны.

## МАГІЯ СЛОВА

У далёкія 70-я гады ўжо мінулага стагоддзя, напрыканцы сакавіка, у час веснавых канікулаў праходзілі Усесаюзныя тыдні літаратуры для дзяцей і юнацтва. У Брэсцкі абласны інстытут удасканалення

настаўнікаў, дзе я быў на курсах перападрыхтоўкі, прыехала група дзіцячых пісьменнікаў з розных рэспублік Савецкага Саюза. Беларусь прадстаўляў Васіль Вітка. Вёў вечарыну Уладзімір Калеснік.

Выступоўцы гаварылі цікава, чыталі свае вершы. Калі надышла чарга, Вітка сказаў пра вялікі абавязак настаўніка па выхаванні падрастаючага пакалення, пра неабходнасць зазірнуць у дзіцячую душу, дайсці да яго сэрца.

— Ніхто гэтак, як малыя, — сказаў Цімох Васільевіч, — не верыць у цудадзейную сілу слова. Вось паслухайце лічылку, якая пражыла стагоддзі і дайшла да нас:

Ены бэны тыкі пакі
Орбы торбы енцы сцакі
Евус дэвус кут натэвус —
Старой бабе за печ спаць!

Нічога, апроч апошняга радка, — гаварыў далей Вітка, — не зразумела. Мабыць, лічылка гэтак доўга і жыве, што ў ёй ёсць самае галоўнае для дзіцячай гульні — магія таямнічасці, магія слова. А зараз паслухайце сучасную лічылку — лічылку маіх унучак:

Из-за горки катится
Голубое платьице.
На боку зелёный бант —
Меня любит лейтенант.
Лейтенант молоденький,
Звать его Володенька.
Через месяц, через два
Буду я его жена.
Он жену не полюбил,
Взял топор и зарубил.
А жена не умерла,
Взяла сумку и ушла.

Лічылка, як мне здаецца, складзена таксама дзецьмі, — зазначыў Цімох Васільевіч. — У ёй, нягледзячы на трагічную сітуацыю, усё канчаецца аптымістычна: „взяла сумку и ушла”. А гэта вельмі характэрна для дзіцячай фантазіі...

У той час, як выступаў Васіль Вітка, на двары бушавала навальніца. Раптам грымнуў гром — можа, першы ў тым годзе. У інстытуце згасла святло.

— Вось бачыце, наваражыў! — усміхнуўся Уладзімір Андрэевіч Калеснік.

## АДЗІН РАДОК ЛІЧЫЛКІ

Каб паскорыць работу над гэтай кнігай, я папрасіў сына Анатоля набраць на камп'ютэры напісанае. Пасля перадрукоўкі Віткавых лічылак, Анатоль патэлефанаваў мне:

— А трэці радок можна таксама расшыфраваць... „Евус дэвус кут натэвус" — скажоная лацінская фраза: „Езус Бог любіць нованароджанага". Гэта падкрэсліла тое, што з'явілася лічылка вельмі даўно. Сотні і тысячы разоў паўтаралася, у тым ліку і дзіцячымі вуснамі, „адшліфавалася" і атрымала сучаснае гучанне, страціўшы першапачатковы сэнс...

## ЯК АДЗЕННЕ НАВЫРОСТ

Другі раз мяне паклікалі ў Каралішчавічы ў снежні 1975-га. Сюды сабраліся маладыя літаратары, што пішуць для дзяцей.

У адзін дзень да нас прыехалі Алена Васілевіч, Васіль Вітка і Вера Палтаран. Пра майстэрства дзіцячага пісьменніка Цімох Васільевіч гаварыў так:

— Калісьці малым куплялі аддзенне навырост, бо за адзін год не зносіш. Для дзяцей і пісаць трэба гэтак жа добра, зразумела, як і для дарослых, але крыху з хітрынкаю. Тады і бацькі, можа, возьмуць штонебудзь для сябе...

Усе слухалі Цімоха Васільевіча засяроджана. Яго словы як бы набрынялі добрай усмешкаю. Ссівелыя, аж да белізны, валасы, разумны погляд з-пад інтэлігентных акуляраў, кожнае слова ўзважанае і трапнае — такога можна слухаць бясконца, і Вітка працягваў :

— Лірыкі праяўляюць свае здольнасці ў маладым узросце, а дзіцячыя пісьменнікі — потым, як становяцца бацькамі. Гэта першая прыступка. Вышэйшая — калі становяцца прадзедамі. Я пакуль не прадзед, а таму спадзяюся, што мая галоўная кніга яшчэ наперадзе. Гэта першае. А другое — дзіцячы пісьменнік павінен мець багаты жыццёвы вопыт. Відаць, невыпадкова, што выхаванне малых спрадвеку давяралі бабулям і дзядулям. А казкі, якія яны расказваюць сваім унукам, — гэта народная педагогіка, якая будзе выхоўваць вечна. Хаця, калі глядзець на ўзрост, дык бывалі і выключэнні...

І Цімох Васільевіч паведаміў, што сваю знакамітую казку „Канёк-Гарбунок" Пётр Яршоў напісаў у дзевятнаццацігадовым узросце. Калі прачытаў яе Аляксандру Сяргеевічу Пушкіну, той пахваліў ад душы і прызнаўся, што яму, Пушкіну, не трэба болей пісаць казак, бо лепшую, чым гэтая, не створыць.

Потым Яршоў напісаў шмат твораў, але так і застаўся для ўсіх аўтарам „Канька-Гарбунка”.

— На дзіцячага пісьменніка нярэдка глядзяць, як на чалавека несур'ёзнага, — працягваў гаварыць Цімох Васільевіч. — Ён, сапраўды, пастаянна назірае за паводзінамі малых, іх гаворкаю, удзельнічае ў гульнях, — і расказаў, што Янка Маўр, якому было пад дзевяноста, мог залезці пад стол, хаваючыся ад доктара, які забараніў Івану Фёдаравічу па стане здароўя прыходзіць у Саюз пісьменнікаў...

## ДА НАЗВЫ ВЁСКІ ЕЎЛІЧЫ

Тады, у Каралішчавічах, выступаючы перад маладымі літаратарамі, Васіль Вітка даказваў, што ледзь не кожнае слова людзі ўспрымаюць па-рознаму.

— У маладыя гады, — гаварыў Цімох Васільевіч, — я першы раз чытаў аповесці Валянціна Катаева і аж да слёз насмяшыла прозвішча аўтара. Хіба ж не смешна: Валянцін Пятровіч ката еў?!

Той каралішчавіцхі эпізод прыгадаўся мне праз многа гадоў, пад час працы над гэтай кнігай, калі раптам назва вёскі Еўлічы, дзе нарадзіўся Цімох Васільевіч, „разбілася” на два словы: „еў” і „лічы”. Значыць, еў ці не, а лічы, што еў. Нават жартоўны вершык паявіўся:

Рагаталі, як сычы,
Людзі слуцкай вёскі,
І пайшлі
Па зямлі
Дружна пагалоскі:
„Не маўчы,
А гавары:
Піў, лічы.
Ды еў, лічы!..”...
З той вясёлае пары
Вёску клічуць Еўлічы.

## ЯК З'ЯВІЛАСЯ „ВАВЁРЧЫНА ГОРА”?

Нечакана размову скіравала ў іншае „русла” Алена Васілевіч. Алена Сямёнаўна абвяла вачыма нас, маладых яшчэ, бязвусых, і з усмешкаю спытала ў Віткі:

— Дык, што, Цімох Васільевіч, загадаеце гэтым хлопцам не пісаць, пачакаць, калі стануць дзядамі? Але і вы „Вавёрчына гора” напісалі, калі яшчэ не былі дзедам?

— Казка ўзнікла па неабходнасці, — адказаў Вітка. — Дзедам, і праўда, я не быў яшчэ, але бацькам ужо быў. Паехалі мы з сынам Вісарыёнам, якога ўсе блізкія звалі Вілікам, да бабулі ў вёску. Прыехалі ў Слуцк раніцой, а да маіх Еўлічаў транспарту не было. Пайшлі пеша, а гэта кіламетраў за дваццаць.

Вілік стараўся не адставаць, аж пакуль ногі не стаміліся. Захныкаў, сеў на дарозе і кажа: „Пайду, калі будзеш казку расказваць!” Я яму адну, другую, трэцюю... дзесятую — і ўсё, скончыліся. А сын ужо без казкіісці не можа. Тады я стаў фантазіраваць пра вавёрачку, у якой забалелі зубкі. Пачалі з сынам прыдумляць разам, як дапамагчы беднай вавёрачцы. І ў Еўлічы прыйшлі.

Там я залез на вышкі, дзе звычайна працаваў, прыязджаючы дадому, і стаў пераводзіць прыдуманае ў дарозе ў вершаваную форму. Так і з'явілася казка.

## ВІСАРЫЁН, ЁН ЖА ВІЛІК

Не памятаю, хто з маладых адважыўся задаць пытанне:

— Скажыце, Цімох Васільевіч, а чаму вы свайго сына Вісарыёнам назвалі?

— Вы ж памятаеце, што ў XIX стагоддзі быў вядомы крытык Вісарыён Рыгоравіч Бялінскі. Ягоныя творы я вельмі паважаў. У гонар яго і назваў. А для самых блізкіх сын быў і застаецца Вілікам.

У адным з лістоў 1942 года, адрасаваных жонцы Вользе, Васіль Вітка пісаў: „Перапісаў начыста вершы, што пісаў у час вайны, аб'яднаў іх у адзін цыкл пад агульнай назвай „Горкі вырай”... А даў мне назву і агульны настрой... той маленькі верш, які так бязлітасна раскрытыкаваў за недакладнасць рыфмаў наш „неистовый Виссарион”. Я прыняў яго крытыку вельмі сур' ёзна і сам зрабіў гэты верш на рускай мове і ўжо з дакладнымі рыфмамі. І вось „дзякуй” скажы яму, майму крытыку: верш з яго лёгкай рукі атрымаў усеагульную вядомасць. Цікоцкі напісаў да яго музыку, а тэнар Балоцін будзе выконваць яго на радыё на ўвесь Савецкі Саюз. Сягоння мне званілі з Радыёкамітэта і віншавалі. Кажуць, што цудоўная песня... Пасылаю гэты верш табе. Прачытай яго Віліну. Пацалуй яго моцна-моцна. І скажы яму, што ён сапраўдны крытык, раз свайго бацьку ў людзі выводзіць...”

## КАЛІ КРЫСЬКО СТАЎ ВІТКАМ

Не, тады ў мяне не хапіла смеласці задаць такое пытанне Васілю Вітку. І пазней пры сустрэчы не запытаў, а 2006-м мяне зацікавіла гэтае пытанне. У лісце да Вісарыёна Цімафеевіча я напісаў, як і чаму бацька ўзяў такі псеўданім.

Прамога адказу ў лісце не было, але Вісарыён Крысько прывёў два ўрыўкі з бацькавага пісьма да маці: „14. 03. 44 г. Напісаў новыя вершы, і, што галоўнае, з Цімоха Крысько стаў Васіль Вітка."

А 28 сакавіка 1944 года як бы дадаў: „Выслаў табе № 2 „Беларусі". Там змешчаны два мае вершы пад псеўданімам".

Значыць, час дакладны — сакавік 1944 года. А чаму Цімох Крысько ператварыўся ў Васіля Вітку?

## АД ЗРЭБНАГА ДА ВІТКІ

У пачатку мінулага стагоддзя, калі прабіваўся ў літаратуру Цімох Васільевіч, пісьменнікі ахвотна бралі сабе псеўданімы. Так, Мікалай Раманоўскі стаў Кузьмой Чорным, Кандрат Атраховіч — Кандратам Крапівой, а Аляксандр Каратай — Максімам Лужаніным. Былі і „гаворачыя" псеўданімы. Пра гэта некалі склаў верш паэт Барыс Слуцкі:

Калі чалавек выбіраў псеўданім
Вясёлы,
ён думаў аб тым, хто абраў прозвішча
Горкі,
таксама аб тым, хто ўзяў прозвішча
Бедны.
Вясёлая эра, яна ж і светлая Ора,
з сабой прывяла псеўданімы
Святлоў і Вясёлы,
але не дазволіла б зноўку вярнуцца
Горкім і Бедным.
Яна дапускала Бязлітасным звацца,
дый не даравала б імя
Безнадзейны.

Да „гаворачых" адносіўся і першы псеўданім Крысько. Вершы, што з'явіліся ў дадатку да газеты „Камуніст", малады паэт падпісаў: Цімох Зрэбны. Маўляў, са сваімі творамі да вас ідзе просты вясковы хлопец у даматканай, зрэбнай вопратцы.

Гэта была не толькі даніна часу, але і боязь перад судом самых патрабавальных крытыкаў — чытачоў і сяброў-літаратараў. Вершы былі прынятыя прыхільна, і на цэлых пятнаццаць гадоў Крысько адмовіўся ад псеўданіма.

І толькі ў гады вайны, як мы бачылі, Цімох Васільевіч зноў задумаўся пра выбар другога (літаратурнага) імя.

Само імя Васіль паэт узяў у бацькі — Васіля Максімавіча, а прозвішча — ад дыялектнага слова „вітка”. Гэтак на роднай яму Случчыне (дый не толькі там) называлі вяху — высокую тычку са шматком сена ўверсе, якой аддзялялі ўчасткі, надзелы. У польскай мове слова азначала галінку. Ёсць і гістарычнае тлумачэнне: з часоў Грунвальда нашыя продкі „вогненымі віткамі (віцамі)” называлі спецыяльныя каралеўскія граматы, якія пад час вялікай небяспекі склікалі сялянскае апалчэнне. Каралеўскі пасланец на кані з запаленай віткай на дзідзе нёсся па гарадах і весях, абвяшчаючы пра бяду, што насунулася на краіну.

Відаць, нездарма менавіта ў гады ліхалецця стаў Крысько Віткам, узнімаючы сваімі творамі землякоў-беларусаў на барацьбу з бязлітасным ворагам.

## „ДЗЕД” І „ЎНУК”

Псеўданім застаўся назаўжды. Больш за тое — пад гэтым імем па-сапраўднаму раскрыліся талент Цімоха Васільевіча, ягоная шчырая любоў да людзей. Нарадзіўся добры і мудры казачнік, які пісаў:

Жыў на свеце дзед Васіль,
За плячыма мех насіў...

А ў мяжу тым — казкі, загадкі, пацешкі, лічылкі...

Неўзабаве дзіцячы пісьменнік і галоўны рэдактар часопіса „Вясёлка” адшукаў для сябе і „ўнука” — Васю Вясёлкіна. Упершыню трэцякласнік Вася з'явіцца ў казцы „Буслінае лета”. А ў „Казцы пра цара Зубра” ён ужо — Вася Вясёлкін, які вельмі хутка палюбіўся дзецям. І не толькі беларускім хлопчыкам і дзяўчынкам. Да дня прыезду Цімоха Васільевіча ў Балгарыю паэтка Тэадора Ганчава напісала верш „Вася Вясёлкін прыехаў”. Гэты твор пераклаў на беларускую мову Ніл Гілевіч:

Дзеці, шчаслівая вестка вам ёсць:
Вася Вясёлкін сягоння наш госць!
Вася Вясёлкін — разумны і здатны,
Вася Вясёлкін — наш сябар выдатны!..

Вася Вясёлкін стаў пастаянным „членам” рэдкалегіі часопіса „Вясёлка”. На якія толькі добрыя справы ён ні клікаў маленькіх чытачоў! І сёння ён з вясёлкаўцамі…

## ПЕРШЫ АЎТОГРАФ

Заканчваўся 1975 год. У плане выдавецтва „Мастацкая літаратура” выхад маёй кніжкі апавяданняў і казак „Вавёрчына дзякуй” значыўся чацвёртым кварталам.

Я не ведаў, ці выйшла яна, і адпрасіўся з семінара, каб з'ездзіць у выдавецтва і пра ўсё даведацца. Найперш заехаў да рэдактара маёй кніжкі Уладзіміра Машкова:

— Не, мы ўсё зрабілі своечасова і даўно здалі ў выдавецтва, — адказаў Уладзімір Георгіевіч. — Павінна была выйсці!..

І сапраўды, зайшоў я ў кнігарню „Светач”, і першае, што кінулася ў вочы, — гэта кніжка з чырвонай вавёрачкай на вокладцы. Яшчэ не прачытаўшы загалоўка, я зразумеў: мая!..

На радасцях купіў адразу дзесяць кніжак. Дадому прывёз толькі адну. Каб паказаць. Але й не гэта было самае галоўнае, а тое — што выпадкова на праспекце Леніна сустрэў Васіля Вітку. Першае, што я зрабіў, пахваліўся кніжкай, якая толькі што выйшла.

— Віншую!.. — сказаў Цімох Васільевіч. — Пакажыце!..

Мы стаялі якраз каля кінатэатра „Цэнтральны”. Зайшлі пад дах, і я падпісаў яму кніжку.

Усё адбылося зусім выпадкова, але з цягам часу я зразумеў: ёсць у гэтым свая заканамернасць, што першую кніжку я падарыў яму, Настаўніку.

## ХЛЕБ-СОЛЬ АД КРОШЫНЦАЎ

14 верасня 1985 года ў Крошыне Баранавіцкага раёна, на радзіме самабытнага паэта і каваля Паўлюка Багрыма, беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў сабраў Сымон Свістуновіч.

Сымон Сцяпанавіч, вядомы мастак, габелены якога займалі ўжо сваё месца ў сталічных выставах, пісаў апавяданні і да сённяшняга дня працуе ў рэдакцыі газеты „Звязда”. Апроч таго, ён далучыўся і яшчэ да адной важнай справы — да стварэння музея Паўлюка Багрыма.

На адкрыццё музея з'ехаліся многія пісьменнікі. Дэлегацыю Брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў узначаліў Уладзімір Калеснік. Прыехала група з Мінска на чале з Васілём Віткам. З Гародні была

Данута Бічэль-Загнетава, з Луцка — паэтка і перакладчыца Алена Крыштальная.

Крошынцы сардэчна сустракалі гасцей. Прыняць хлеб-соль ад аднавяскоўцаў легендарнага каваля-паэта даверылі Васілю Вітку, прызнаючы ягоны шаноўны ўзрост і ўклад у літаратуру.

Цімох Васільевіч прыняў дар, пацалаваў хлеб і адламаў маленечкі кавалачак. Разам з Сымонам Свістуновічам яны паклалі кветкі на магілу аўтара верша „Зайграй, зайграй, хлопча малы...”

Затым пачалася вечарына паэзіі. Як звычайна ў такіх выпадках, вёў яе Уладзімір Андрэевіч Калеснік. Больш за дзве гадзіны гучалі вершы на беларускай і ўкраінскай мовах. Ад імя землякоў Багрыма шчыра дзякаваў пісьменнікам старшыня мясцовага калгаса, які горача падтрымліваў і аказваў дапамогу пачынанням Свістуновіча, Георгій Казляк.

Захаваліся фатаздымкі, зробленыя мясцовым майстрам. На адным з іх — Цімох Васільевіч з хлебам-соллю. На вуснах — прыветная, віткаўская ўсмешка, а ў вачах — шчырая радасць.

## ГАВАРЫЎ І СВЯЦІЎСЯ

Пасля аднаго выступлення Віткі ў Каралішчавічах Мікола Гамолка сказаў пра яго:

— Гаварыў і свяціўся!

Прыязджаючы да маладых пісьменнікаў, Цімох Васільевіч абавязкова заставаўся на абмеркаванне іх твораў. Браў сам актыўны ўдзел у размове, радаваўся кожнаму ўдаламу вершу, трапнаму радку.

У снежні 1985 года з казкамі пра дзеда Манюкіна пазнаёміў усіх Васіль Шырко. Хтосьці заўважыў, што ў казках ёсць добры гумар, мова сакавітая, вось толькі многа чарцей, ведзьмаў і рознай нечысці.

— А я таксама не баюся пісаць пра чарцей, — адразу парыраваў Вітка і прыгадаў пры гэтым вядомую казку Аляксандра Пушкіна ды аповесці Мікалая Гогаля.

Вершы, пацешкі, лічылкі чытала Г. Іванова. Ганна — не толькі паэтка, але й маці трох дзетак. Чытала, быццам гуляла з малымі. Калі закончыла, дзяўчаты нават запляскалі ў далоні, а Эдзі Агняцвет сказала:

— Цудоўныя Ганніны вершы — ад добрага ведання творчасці Віткі.

Цімох Васільевіч, аднак, не пагадзіўся:

— Не, я думаю, творы яе ідуць ад саміх дзяцей. Дый гучаць яны так, як дзіцячыя лічылкі, вершыкі. Дзякуй вам за тое, што пішаце

такія добрыя творы, а таксама за тое, што самі выхоўваеце дзетак! — і шырока, шчыра, шчасліва ўсміхнуўся.

## ГЛУХІ ДА МОВЫ

Маладыя пісьменнікі ўбачылі, які прынцыповы бывае Васіль Вітка, калі яму нешта не падабаецца. Варта было настаўніку з Дзяржынскага раёна прачытаць сваё слабое апавяданне, а камусьці з маладых падтрымаць яго:

— Задума ёсць, вось толькі мова падводзіць аўтара... — як Цімох Васільевіч рашуча запратэставаў :

— Мова падводзіць?! Не можа быць добрым пісьменнікам той, хто не валодае мовай у дасканаласці! А тут дзеці гавораць між сабою, як дзядзькі дарослыя, прымаюць пастановы. Чым жа яны будуць займацца, як вырастуць?..

Праз некалькі дзён, сустрэўшы ў Мінску, Цімох Васільевіч зноў згадае настаўніка з Дзяржынска і выкажацца востра, бы вынесе прысуд:

— Гэты чалавек глухі да мовы. Не можа ён быць пісьменнікам!

У аўтара была ўжо выдадзеная першая кніжка. І, мусіць, апошняя.

## УРОКІ РАДАСЦІ

У 1969 годзе Васіль Вітка, прыехаўшы ва Украіну, пазнаёміўся з дырэктарам Паўлышскай сярэдняй школы Кіравагградскай вобласці Васілём Аляксандравічам Сухамлінскім. Імя педагога было вядома па ўсёй краіне: ён стварыў у роднай вёсцы Школу Радасці. Бо дзеці прыходзілі сюды, як на свята, тут кожны быў творца — мастак ці паэт.

Пасля таго як Сухамлінскага не стала, Васіль Вітка правёў некалькі ўрокаў у Мялешкаўскай школе на Случчыне. Пяць вечароў я бег дамоў, каб „пабыць” на ўроках Цімоха Васільевіча (паказвалі па беларускім тэлебачанні).

Урокі падказала кніга „Чытанка-маляванка”, пра якую сам Вітка сказаў: „Мне больш за ўсё хочацца паказаць дзіцяці багацце і музыку народнага слова... Як ніхто, дзіця ўпэўнена, што, ведаючы таямніцы слова, можна стаць усёмагутным уладаром”.

Хлопчыкі і дзяўчынкі разам з Цімохам Васільевічам наведалі (а дакладней — правялі) урокі вясёлай матэматыкі, роднага слова, вясёлага слова, казкі. Апошні тэлеўрок „Пра самую дарагую рэч у

доме". Дзеці расказвалі пісьменніку пра свае цікавыя рэчы. Размова мела працяг на старонках часопіса „Вясёлка".

О, як усе зайздросцілі мял веткаўскім дзецям! О, як усе зайздросцілі Цімоху Васільевічу, яго ўменню даносіць да малых урокі радасці!

## ЦЕСНЫ СВЕТ!

У мяне быў і яшчэ адзін урок Васіля Віткі, хоць сустрэцца ў сярэдзіне 90-х гадоў і не выпала. Перабудова і галоснасць унеслі карэктывы ў жыццё. Чалавеку далі магчымасць мець погляды, адметныя ад афіцыйных. Гэта, аднак, падзяліла грамадства на „нашых" і „нянашых".

У сям'і здарылася няшчасце: дачка Наташа трапіла ў аварыю. У гэты цяжкі для нас момант жанчына, якая адносілася да „нянашых" і прынесла непрыемнасцей для сям'і, зрабіла крок насустрач — абяцала дамовіцца са сваім блізкім родзічам, што працаваў у Мінску ўрачом-траўматолагам, каб той агледзеў дачку. У жыцці так бывае: людзі і недалюбліваюць, і сварацца, а як прыйдзе бяда — дапамагаюць адзін аднаму.

Наташа была ў такім стане, што везці яе ў сталіцу было нельга, але пазней, калі яна знаходзілася ў навукова-даследчым інстытуце,мы ўспомнілі пра колішнюю прапанову. І як жа здзівіліся, даведаўшыся, што той урач-траўматолаг — не хто іншы, як Вісарыён Цімафеевіч Крысько — сын Васіля Віткі!

Знаходзячыся пад уражаннем „адкрыцця", я паўтараў два словы:

— Цесны свет! Цесны свет!..

Сапраўды, калісьці Васіль Вітка дапамагаў мне, дзіцячаму пісьменніку, станавіцца на ногі, а зараз ягоны сын ратаваў маю дачку. Потым неяк падсвядома прыйшло перакананне ў тым, што Цімох Васільевіч — гэты Мудрэц з вялікай літары — яшчэ раз працягнуў руку дапамогі, пастараўся памірыць з чалавекам, каб я не насіў у душы крыўды...

## ... А ПАМЯЦЬ ЗАСТАЛАСЯ

Мінула дзесяць гадоў, як няма з намі Васіля Віткі, але яго творы па-ранейшаму жывуць ў падручніках для малодшых школьнікаў, якім аддаў свой талент паэт.

Яшчэ пры жыцці яго імя было вядома не толькі ў роднай Беларусі. У 1970 годзе Васілю Вітку было прысвоена званне заслужанага

дзеяча культуры Беларускай ССР, а праз два гады за кнігі „Беларуская калыханка”, „Казкі” і „Чытанка-маляванка” ён стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР. Сусветнае прызнанне прыйшло, калі Вітку ўзнагародзілі Міжнародным Ганаровым дыпломам імя Ханса-Крысціяна Андэрсена. Імя беларускага казачніка была ўнесена ў ганаровы спіс літаратарaў, якія пісалі і пішуць для маленькіх жыхароў планеты. Адбылося гэта ў 1978 годзе.

Пасля смерці Цімох Васільевіч жадаў легчы ў родную еўліцкую зямлю. І хаця быў пахаваны ў Мінску, але вярнуўся-такі ў Еўлічы. На пачатку ўжо гэтага стагоддзя еўліцкі калгас, што насіў імя Чкалава, быў пераўтвораны ў сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў „Агра-Вітка”.

Значыць, родныя мясціны памятаюць свайго слаўнага земляка!

## Змест

**Частка другая. МАГІЯ СЛОВА**